Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 42(78) 18–24 кастрычніка 1996 года Цана 1500 руб.

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Падзея тыдня

Пасля з'яўлення звароту 110 дэпутатаў Вярхоўнага Савета да прэзідэнта кіраўнік дзяржавы выступіў у парламенце з прамовай. Ён, як мяркуецца, успрыняў ідэю кампрамісу, выказаную ў гэтым звароце і са свайго боку быў згодны ўнесці некаторыя змены ў праект паправак да Канстытуцыі– у абмен на тое, што дэпутаты ўнясуць папраўкі у раней прынятую пастанову Вярхоўнага Савета, якая тычылася ўмоў правядзення рэферэндуму, і прызначыць новую дату гэтай падзеі– 7 лістапада замест 24. Дэпутатам таксама прапаноўвалася адклікаць альтэрнатыўны праект Канстытуцыі (ад фракцый камуністаў і аграрыяў).

Затым А. Лукашэнка адказаў на пытанні. Так, на пытанне, хто з'яўляецца аўтарам праекта Канстытуцыі, прэзідэнт паведаміў: "Ён перад вамі". Са слоў прэзідэнта, ужо тры мільярды рублёў накіравана ў абласныя выбарчыя камісіі, а па ўсёй рэспубліцы створаныя акружныя і ўчастковыя камісіі.

Пасля выступлення старшыні Цэнтрвыбаркома В. Ганчара прагучалі факты, якія сведчаць аб адваротным: адсутнічае фінансаванне, парушана заканадаўства пры стварэнні камісій. Сарваны таксама другі этап кампаніі па падрыхтоўцы рэферэндуму– складанне спісаў выбаршчыкаў, якія неабходна рабіць па новай форме, а яна на сёння нават нідзе не аддрукаваная. А калі падрыхтоўка будзе і далей ісці такім чынам, то ёсць усе падставы для таго, каб вынікі галасавання былі прызнаныя несапраўднымі.

Нечаканасцю стала выступленне старшыні Канстытуцыйнага суда В. Ціхіні. Ён назваў прапановы прэзідэнта не кампрамісам, а ўльтыматумам, і ў чарговы раз заклікаў кіраўніка дзяржавы сесці за стол перамоў з парламентам на карысць інтарэсаў рэпублікі.

У выніку прэзідэнт заявіў наступнае: "Я адклікаю свае ініцыятывы і прашу Сямёна Георгіевіча зняць гэтае пытанне з абмеркавання. У мяне толькі адзін шлях– народ, людзі, але не дэпутаты."

Такім чынам, дата рэферэндуму і пытанні застаюцца ранейшымі, г. зн. 24 лістапада і сем пытанняў, два з якіх– альтэрнатыўныя праекты Канстытуцыі. Акрамя Вярхоўнага Савета, ніхто не мае права прызначаць другую дату рэферэндуму і склад пытанняў.

Падзеі ў Беларусі не засталіся незаўважанымі ў Еўропе. У Мінску з двухдзённым візітам пабывала прэзідэнт Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Лені Фішар, якая сустрэлася з палітычнымі лідэрамі рэспублікі. Пазіцыя гэтай арганізацыі гучыць так: "Беларусь згубіць шанцы на ўступленне ў Савет Еўропы, калі ўлады краіны не будуць прытрымлівацца Канстытуцыі, што дзейнічае, і прынцыпаў дэмакратыі".

*Аляксандр УЛАДЗІН.*

## Адным абзацам

❑З надыходам восені пачалася чарговая прызыўная кампанія. Па ўказанні міністра абароны, адпраўка прызыўнікоў у войска пройдзе з 10 снежня па 20 студзеня. А работнікі пракуратур, дзякуючы Указу прэзідэнта, у 1997-1998 гадах атрымалі адтэрміноўку ад прызыву на тэрміновую службу і службу афіцэраў запасу.

❑У пачатку кастрычніка прайшло паседжанне Кабінета Міністраў, дзе разглядаўся ход сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны. Урад рыхтуе праект дакумента, згодна з якім са студзеня мінімальная зарплата павысіцца да 130 тысяч, тарыфная стаўка першага разраду– да 145 тысяч. Адпаведна плануецца павысіць пенсіі, стыпендыі і іншыя сацыяльныя выплаты. Але ці дапамогуць трыццаць тысяч пры штотыднёвым павелічэнні цэн? Тым больш у пачатку наступнага года.

❑Кабінет Міністраў з мэтай абароны інтарэсаў беларускіх фармацэўтычных прадпрыемстваў выдаў пастанову, згодна з якой усе замежныя лекавыя сродкі і фармацэўтычныя субстанцыі, аналагічныя выпускаемым у Беларусі, будуць увозіцца толькі пры прад'яўленні дазволу Міністэрства аховы здароўя.

❑26-27 ліпеня у Мінску вырашана правесці другі з'езд беларусаў свету. Першы адбыўся ў ліпені 1993 года, але ён сабраў у асноўным прадстаўнікоў беларускага замежжа.

❑Калі вы маеце намер ехаць цягніком па расійскай чыгунцы, то не забудзьцеся, што ў білеце павінны быць пазначаныя ваша прозвішча і дадзеныя пашпарта, ці іншага дакумента з фатакарткай. Такое правіла ўведзена расійскім Міністэрствам шляхоў зносін у мэтах кантролю за перамяшчэннем пасажыраў.

❑І яшчэ адно патрабаванне да нашых грамадзян, але ўжо з боку Балгарыі. Каб наведаць гэтую краіну ці праехаць транзітам праз яе тэрыторыю, неабходна мець на руках дакумент аб прышчэпцы супраць дыфтэрыі (праведзенай у два прыёмы). Такая мера ўведзена часова, у сувязі з абвастрэннем эпідэміялагічнага становішча ва Усходняй Еўропе.

❑Сесія Смаргонскага гарсавета па прапанове дэпутата А. Дзергачова, аднагалосна вырашыла матэрыялізаваць мару паловы жыхароў горада: у 1997 годзе будзе будавацца прыпынак прыгарадных цягнікоў насупраць мікраёна "Усходні".




# Пераязджайма!

Палажэнне Міністэрства працы прадугледжвае парадак і ўмовы перасялення беспрацоўных гараджан. Хто рызыкуе, атрымлівае па 500 тысяч і яшчэ па сотні на кожнага члена сям'і. Таксама поўнасцю аплачваецца пераезд. Звяртайцеся ў цэтры занятасці!

*Марыя Бурачонак (прозвішча, натуральна, не дзявочае) перасялілася, таму што сябруе з "РГ" і своечасова даведваецца аб усіх важных падзеях.*

***Кошт падпіскі на "Рэгіянальную газету– 4 тыс. рублёў на месяц. Такая цана пратрымаецца да канца года. З пачатку наступнага года месячная падпіска каштуе 8 тыс. рублёў. Індэкс– 63212.***

## Навіны

### Кансультацыі наконт асацыяцыі

***МІНСК. На мінулым тыдні Міжнародная федэрацыя выдаўцоў газет (FIEJ), цэнтр "Супольнасць" і рэдакцыя газеты "Свабода" ладзілі для выдаўцоў і галоўных рэдактараў недзяржаўных газет краіны семінар "Кіраванне газетай: сусветны і беларускі досвед".***

Фінансавую падтрымку праекта ажыццяўляў Савет Еўропы. Не толькі нашы ўдзельнікі, але і госці з Англіі, Ірландыі, Латвіі, Эстоніі, Польшчы адзначылі абсалютную незаарганізаванасць сустрэчы, яе практычную скіраванасць. Ідэй, напрацовак прагучала шмат. "РГ" мяркуе многае "ўкараніць" у сваёй дзейнасці. Спадзяемся, чытач ацэніць гэта. І параіць падпісацца на нас іншым.

Магчыма, недзяржаўныя выданні створаць у далейшым сваю асацыяцыю.

*Аддзел інфармацыі.*

### Усё праходзіць

***АСТРАВЕЦ. У мінулую суботу на ўрачыстае адкрыццё беларуска-літоўскай школы ў Рымдзюнах прыехалі прэм'ер-міністры дзвюх краін.***

Установа гэтая пабудавана суполкай беларускіх літоўцаў і цікавая тым, што ў адным будынку будуць мясціцца дзве школы– з беларускай і літоўскай мовамі навучання. Кіраваць імі будуць таксама два дырэктары, кожны сваёй.

Мясцовыя жыхары заўважылі цікавую заканамернасць. Справа ў тым, што прыезд высокапастаўленых асоб з кіраўніцтва Беларусі і Літвы на такім узроўні ў Гервяцкі край, як вядома, не рэдкасць. У не такія далёкія часы тут сустракаліся і Шушкевіч з Ландсбергісам, і Кебіч са Шляжавічусам. І пасля падобных сустрэч неўзабаве яны сыходзілі з палітычнага алімпа. Вось і чухаюць тамтэйшыя жыхары патыліцу з падобнай нагоды, не знаходзячы адказу на пытанне:

– Ці доўга працягнуць на сваіх пастах Чыгір са Станкявічусам?

*Аддзел інфармацыі.*

### Толькі чацвёра. Але нашых

***З некалькіх дзесяткаў жанчын, узнагароджаных Указам прэзідэнта РБ ордэнам Маці, толькі чатыры прадстаўляюць Мінскую вобласць.***

І ўсе яны нашы– з Маладзечаншчыны. Таіса Барэйка працуе ў дзіцячым садку калгаса "Маркава", Натэла Медашвілі ёсць хатняй гаспадыняй у Красным, Марына Юрчанка працуе даяркай у калгасе "Герой Працы", а Ніна Карпіцкая– работніца фабрыкі мастацкіх вырабаў у Маладзечне.

З 28 гродзенскіх мнагадзетных маці няма ніводнай прадстаўніцы нашага рэгіёна, адзначанай прэзідэнтам. Але навярстаць упушчанае няцяжка– нараджайце!

*Аддзел інфармацыі.*

### "Палац" не крыўдуе

***АСТРАВЕЦ. З завяршэннем работ на ўласных дачных участках, на калгасных палетках у большасці з нас з'яўляецца вольны час. Зразумела, што яго нейкім чынам неабходна запоўніць. Вось толькі не вельмі развернешся ў райцэнтры, не кажучы пра вёскі.***

Спробу хоць неяк унесці разнастайнасць у жыццё райцэнтра зрабіў на мінулым тыдні вядомы рок-гурт "Палац" з Навапалацка. Хлопцы з яго збіраліся даць у мінулую нядзелю два канцэрты ў кінатэатры "Кастрычнік" і, як аказалася, дарэмна: жадаючых купіць білеты не аказалася.

Тлумачэнняў усяму ёсць пакуль толькі два. Першае зводзіцца да таго, што ў панядзелак у тым жа кінатэатры дарослых з іх малымі забаўлялі цыркачы. Другое ж можна трактаваць наступным чынам: трыццаць тысяч за білет аказаліся не такой драбязой, якую можна было б аддаць не задумваючыся. Некаторыя палічылі за лепшае ўкласці іх у віна-гарэлачныя "тусоўкі". А тыя без песняў рэдка калі абыходзяцца.

"Палачукі" на такое не пакрыўдзіліся (жывыя людзі) і далі астраўчанам яшчэ адзін шанц. Заўтра, магчыма, выступленне вядомага не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі рок-гурта ўсё ж адбудзецца.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Рэферэндум у Смаргоні

# За ўваходжанне ў Мінскую вобласць

***На нечарговых сесіях дэпутатаў гарадскога і раённага Саветаў на абмеркаванне і галасаванне ставілася адно пытанне– "Аб аб'яднанні дзвюх адміністрацыйных адзінак (горада і раёна), якія маюць аднолькавы адміністрацыйны цэнтр".***

У вобласці, пасля таго як знялі намесніка старшыні Генадзя Сафронава і прынялі адстаўку старшыні гарвыканкома Ільі Рака, хутка пачалі шукаць ім замену. Але тэлефонны званок з адміністрацыі прэзідэнта парушыў планы. І вось выбраннікі народа разам з кіраўнікамі вобласці сабраліся, каб увайсці ў гісторыю. Дэпутаты райсавета ўзаемаразуменне дасягнулі адразу, без абмеркавання, і за "лічыць неабходным аб'яднаць..." прагаласавалі ўсе. У гарадскім жа дзве гадзіны спатрэбілася, каб вызначыцца. Але станоўчае рашэнне прынята.

### Не падарве горад сельскі гандаль

***Размова начальніка ўпраўлення арганізацыйнай і кадравай работы аблвыканкома Марыі Біруковай з дэпутатамі вялася не на эмоцыях, а на лічбах і фактах.***

У горадзе і раёне 16 арганізацый і ўстаноў двайнога падпарадкавання. 8 з іх (міліцыя, суд, медыцына, і г. д.) абслугоўваюць адначасова і гараджан, і вяскоўцаў. Прадпрыемствы па перапрацоўцы сельгаспрадукцыі знаходзяцца на тэрыторыі горада, а адлічваюць грошы ў бюджэт раёна. Раён хоча мець у горадзе свае фірменныя магазіны, а горад крыўдзіцца– падрываюць наш гандаль. Раён пабудаваў рынак, уклаў 120 мільёнаў рублёў, адкрыў лабараторыю, дзе правяраюць прадукты на прыгоднасць А горад вырашыў адкрыць свой рынак у цэнтры. Ці, напрыклад, нафтабаза ў раёне, а папаўняе гарадскі бюджэт. Такіх момантаў дастаткова.

– Каб аператыўна вырашаць пытанні на карысць і гараджанам, і вяскоўцам, улада павінна быць у адных руках,– неаднаразова падкрэслівала Марыя Бірукова.– Сёння раён мае прыбытак у 4 мільярды рублёў, а горад больш за мільярд стратаў.

### Хто будзе першы?

***Аб'яднанне тычыцца толькі выканаўчай улады. Будзе адзіны райвыканком– гэта выгадна для гарадскіх службістаў, бо ў раённых службаў большыя заробкі. Аклад старшыні гарвыканкома 630 тысяч у месяц, у кіраўніка раёна– 990. У астатніх дзесьці такі ж адрыў. Цяпер у райвыканкоме 76 адказных работнікаў, у гарвыканкоме– 66. Па штатнаму раскладу пасля аб'яднання іх стане 114.***

*Заканчэнне на 2-й стар.*

Наш прагноз

# Прадпрымальнікі з Маладзечна чакаюць 24 кастрычніка

*На гэты дзень прызначана чарговае пасяджэнне гарвыканкома, які ў шэрагу іншых пытанняў будзе разглядаць прапановы мясцовых бізнесменаў-кіёсачнікаў па перагляду раней прынятага рашэння (гл. №40 "РГ" ад 4-10 кастрычніка).*

Сярэдняя выручка за месяц,– гаворыцца ў звароце прадпрымальнікаў, які яны накіравалі ў адрас Мінскага аблвыканкома, маладзечанскіх гарвыканкома і падатковай інспекцыі,– у гандлёвых пунктах складае 12 млн. руб. З іх прыбытак– 2400000 руб., з якіх штомесячна трэба выплаціць зямельнага падатку 225 тыс. руб., 800 тыс. руб. прадаўцам, за энергію– 400 тыс. руб. Транспартныя расходы складаюць 500 тыс. руб., тэхабслугоўванне касавага апарату 150 тыс. руб. Да таго ж ёсць арэндная плата і іншыя плацяжы.

Прадпрымальнікі прапануюць выключыць з кошту фіксаванага падатку 30-працэнтную надбаўку, зыходзячы з таго, што гандлёвыя пункты знаходзяцца ў роўных умовах, паменшыць стаўку фіксаванага падатку да трох мінімальных зарплат, зменшыць стаўкі на электраэнергію, перагледзець стаўку зямельнага падатку, дазволіць гандаль тытунёвымі і вінна-гарэлачнымі вырабамі.

Пасля гутаркі з намеснікам старшыні старшыні гарвыканкома Яфімам Ідэльчыкам мы пастараліся спрагназаваць рашэнне выканкома.

*Чакаць скасавання 30-працэнтнай надбаўкі наўрад ці апраўдана. Хутчэй за ўсё, можна ўвесці нейкую дыферэнцыяцыю: скажам, разам з 30-працэнтнай надбаўкай для некаторых увесці 10-працэнтную...*

*Магчыма, будзе перагледжана ў бок змяншэння стаўка фіксаванага падатку. Стаўкі на электраэнергію можа перагледзець толькі абласное аб'яднанне Мінскэнерга. Трэба чакаць, што ўлады пойдуць насустрач у гандлі тытунёвымі вырабамі. Што тычыцца забароны гандлю ў дробнай розніцы алкаголем, то гэта рашэнне цэнтральных органаў на месцах не падлягае перагляду.*

Але ўсё гэта толькі наш прагноз. Ці апраўдаецца ён– пакажа час і сам выканком.

*Аддзел інфармацыі.*

# За ўваходжанне ў Мінскую вобласць

*Заканчэнне.*
*Пачатак на 1-й стар.*

Асноўным будзе будынак райвыканкома. Аб першай асобе пытанне вырашанае, нягледзячы на тое, што афіцыйных загадаў яшчэ не было. Рэплікі з залы:

– Мікалай Мікалаевіч, не страшна браць такую ношу напярэдадні зімы?

– Мікалай Мікалаевіч не працаваў у прамысловасці. А горад якраз прамысловы.

Прагнозаў наконт кіраўніка няма. Ёсць упэўненасць– кіраваць будзе цяперашні старшыня райвыканкома Мікалай Кавалёў.

## Аб мужчынскім сяброўстве

***Дэпутаты гарсавета запыталіся ў кіраўнікоў вобласці напрамую:***

– Чаму знялі Ілью Рака?

Марыя Бірукова ім адказала шчыра:

– Былі напісаны лісты ў розныя інстанцыі, у тым ліку старшыні аблвыканкома. Указваліся выпадкі злоўжывання службовым становішчам. Аўтар лістоў дэпутат гарсавета Ірына Вештард. Факты пацвердзіліся. Калі Сафронаў прыйшоў працаваць у выканком, ён жыў у інтэрнаце. Атрымаў службовую двухпакаёўку. У 1994 годзе гарвыканком прыняў дом з 6 пакояў, які сабе пабудаваў Сафронаў. У тым жа годзе Генадзь Васільевіч атрымлівае пашпарт на гэты дом. Усе афіцыйныя дакументы падпісваў старшыня гарвыканкома. Так Ілья Іванавіч згадзіўся і на беспрацэнтны крэдыт на ўстаноўку тэлефона для свайго намесніка. З улікам заслуг Рака перад горадам, мы прынялі адстаўку, а не знялі па артыкуле. І нельга на Ірыну Вештард усё звальваць. Яна папярэджвала, звярталася ў мясцовую пракуратуру. А там ёй адказалі: усё правільна зроблена. Як рэагаваць аблвыканкому, калі ў горадзе вялікая чарга на жыллё, а ў намесніка старшыні ў цэнтры асабняк, акрамя службовай кватэры?

## За аб'яднанне ў Мінскай вобласці

***— Чаму не аб'ядноўваліся пяць гадоў таму, калі ўжо ўздымалася пытанне і эканамічнае становішча было больш-менш?***

– Што дасць аб'яднанне канкрэтнаму чалавеку?

– Чаму Сафронаў адразу стаў дырэктарам школы. Ці мае ён маральнае права выхоўваць дзяцей?

Пытанні дэпутатамі гарсавета ставіліся розныя. Хвалявалі вынікі "эксперыменту". А дэпутаты Дзергачоў і Лявіцкі прапанавалі: можна аб'яднацца, але зручней далучыцца да Мінскай вобласці. Таму дэпутаты прапанавалі правесці мясцовы рэферэндум. Гараджанам і вяскоўцам прапанавалася адказаць на два пытанні: аб аб'яднанні і жаданні ўвайсці ў склад Мінскай вобласці. Пачалі збіраць сярод дэпутатаў подпісы. Але значнай падтрымкі сярод сваіх калег не знайшлі.

***На сесіях прысутнічаў Васіль САВІЦКІ.***

# Беспрацоўныя не скардзяцца

***АСТРАВЕЦ. У народзе кажуць: "Восень– работ восем".***

Таму тутэйшым беспрацоўным скардзіцца не прыходзіцца, бо ёсць работа на льняных палетках у калгасах імя Карла Маркса і "Кямелішскі". Разлічваюцца з імі за выкананую работу ў канцы тыдня. Калі ў калгаснай касе ёсць грошы, то імі, а калі не– атрымліваеш зерне.

А вось у ВКП "Сельгасаўтасервіс" і фермерскіх гаспадарках Раўды з Петраполі і Лабачэўскага з Астраўца яны выбіраюць бульбу. За дзень у сярэднім атрымліваецца па 80 тысяч рублёў. І скардзіцца не прыходзіцца, бо можна за два-тры дні работы ў рэстаране "адцягнуцца".

***Ян ТАРАШКЕВІЧ.***



# Вот вам, детки, шоколадные конфетки

***АСТРАВЕЦ. Нядаўна супрацоўнікі мытнага паста "Катлоўка" спынілі для праверкі аўтафургон, які накіроўваўся з Германіі на адрас мнскай фірмы "Сюрсэ-94".***

Быў ён загружаны салодкім– 22 тонамі шакаладак. Прыдзірлівыя мытнікі спынілі груз. А праз некаторы час народны суд канфіскаваў яго.

Цяпер мясцовая дзятва жыве ў прадчуванні, што ў хуткім часе, дзякуючы добраму "нюху" мытнікаў, будзе яна есці недарагія шакаладкі.

***Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.***

Творчасць юных

# Дом стане домам

***СМАРГОНЬ. У хуткім часе мамы і таты хворых на ДЦП дзетак прывядуць іх у Дом творчасці юных.***

20 маленькіх наведвальнікаў (эксперыментальная група дыягностыка-рэабілітацыйнага цэнтра) на працягу дня будуць лячыцца, харчавацца, карысна бавіць час– шыць цацкі, маляваць партрэты. А самае галоўнае– сябраваць. Акрамя выхавальнікаў, дзяцей дагледзяць урачы.

З Германіі перадалі цэнтру лячэбны касцюм коштам \$3000. Два медыкі ў сталіцы вучацца ім карыстацца. Работу цэнтра фінансуе гарадскі бюджэт. Да месца былі б і спонсары. Добрыя людзі перадалі аўтобус, каб збіраць і развозіць па горадзе дзяцей. Плануецца ў цэнтры вучыць дзяцей па школьнай праграме. Работнікі Дома творчасці мараць, каб тут дзеці знайшлі сабе другі бацькоўскі дом.

***Аддзел інфармацыі.***

# Будучае за экалагічна чыстай энергетыкай

***М1НСК. На мінулым тыдні адбыўся ІІ беларускі энергетычны семінар і экалагічны кангрэс, у якім прынялі ўдзел 150 фірмаў краін свету. Да яго была прымеркавана навукова-тэхнічная выстава.***

У дні кангрэса замежныя госці прыемна здзіўляліся на дасягненні беларускіх вытворцау і навукоўцаў. За мяжой прызвычаіліся да нашых парадоксаў у палітыцы, а вось навуковыя знаходкі ім сапраўды сталі ў навіну.

Адной з такіх цікавых навін кангрэса быў даклад прэзідэнта Маладзечанскага навуковага цэнтра "Нетрадыцыйная энергетыка" Віктара Лаца аб энергетычных контурных генератарах (ЭКГ). Нетрадыцыйнай энергетыкі сёння несправядліва адводзіцца другарадная роля. Вельмі хутка бяспаліўныя ЭКГ не толькі прыйдуць на дапамогу, але і заменяць традыцыйныя машыны па вырабу энергіі.

З распрацоўкамі супрацоўніка НЦД "нетрадыцыйная энергетыка" цяпер нельга не лічыцца. На асобныя з іх канструктарская дакументацыя перададзена прамысловым прадпрыемствам Маладзечна і Мінска. Яны працуюць над вырабам прамысловых экземпляраў, каб у далейшым пачаць серыйны выпуск.

Цэнтр "Нетрадыцыйная энергетыка" сёння прапануе вытворцам ЭКГ розных магутнасцяў пад існуючыя генератары ўсіх тыпаў, частот, напружанасцей; ЭКГ для атрымання цеплавой энергіі без спальвання паліва; ЭКГ эканамічна таннага атрымання вадароду для стацыянарных і транспартных сістэм; ЭКГ для змешвання на атамна-малекулярным узроўні вадкасцяў.

Распрацаваная ў цэнтры методыка дазваляе змешваць у адпаведных прапорцыях самыя разнастайныя хімічныя кампаненты, лекавыя прэпараты. Тыя, якія лічацца нязмешваемымі. Вынаходцы цэнтра прапануюць яшчэ і новыя тэхналогіі энергетычных установак для надводных і падводных суднаў.

Удзельнікі кангрэса зацікавіліся распрацоўкамі навукова-даследчага цэнтра. Апошні атрымаў шмат цікавых прапаноў па сумеснай дзейнасці

***Святлана САРОКА.***

# У гатоўнасці №1

***МАЛАДЗЕЧНА. У баявой гатоўнасці раённы Дом творчасці. Прэзідэнта, якога ўсё яшчэ чакаюць у пасёлку Чысць, работнікі Дома творчасці сустрэнуць выставай работ сваіх навучэнцаў.***

Як сказалі ў райвыканкоме, будзе толькі гадзіна, для разгортванння экспазіцыі. І каб не разгубіцца, паспець усё вывесіць, правялі рэпетыцыю– выставу. На другім паверсе школы вывешвалі, мянялі месцамі, каб лепей глядзеліся, работы з саломкі, дрэва, фларыстыку, графіку. Усе работы (калі ўлічваць узрост дзяцей) выкананы на высокім узроўні.

***Аддзел інфармацыі.***

# Безыменныя, але прыбытковыя

***МАЛАДЗЕЧНА. Фірменным магазінам мясакамбіната пакуль не далі імя. Для адміністрацыі яны №1 і №2. Апошні толькі адкрыўся ля завода "Спадарожнік". Безыменныя магазіны штодзень прыносяць да 100 мільёнаў рублёў.***

Дае прыбытак і сталоўка (на тэрыторыі камбіната). Лічыцца адной з самых танных у горадзе. Таму і колькасць абедаў павялічваецца. Сёння ў ёй сталуюцца 200 чалавек– свае работнікі і людзі з вуліцы. Уваход нікому не забаронены.

Адкрыццё новых фірменных магазінаў і сталовак пакуль не плануецца– гаспадаркі пераважна здаюць мяса за наяўныя грошы камерцыйным структурам.

***Аддзел інфармацыі.***

# Алесь Ліпскі схлусіў

***У №39 "Рэгіянальнай газеты" ад 27 верасня была змешчана інфармацыя Алеся Ліпскага "Зуб— за "зубра" не вырвеш", дзе гаварылася аб быццам бы зачыненай бальніцы ў Гервятах, аб тым, што медработнікі "перайшлі да рынкавай эканомікі". Даверыўшыся лісту прафесійнага журналіста Валерыя Маркелава, які ўзяў сабе за псеўданім імя Алеся Ліпскага (адпрацаваў ён больш за дзесяць год у мясцовай "Маладзечанскай газеце"), мы апублікавалі няпраўдзівую, мякка кажучы, інфармацыю.***

Вось што напісаў у сваім лісце ў рэдакцыю галоўны ўрач Астравецкага ТМА Валянцін Тачоны.

"У в. Гервяты ўчастковая бальніца дзейнічае не адзін дзесятак год, а ў 1991 годзе бальніца перайшла ў новы тыпавы двухпавярховы будынак, які аддзеланы дрэвам, мармурам, гранітам, паліванай пліткай.

Адміністрацыяй бальніцы, работнікамі ўрачэбнага ўчастка і праўленнем мясцовага калгаса "Радзіма" прыкладзена нямала сіл і стараннясць для аснашчэння бальніцы неабходным сучасным абсталяваннем. Я не думаю, паважаны Алесь Ліпскі, што калі б Вы былі ў гэтай бальніцы, то бачылі "спарахнелы будынак".

Па-першае, нягледзячы на тое, што рашэннем калегіі Міністэрства аховы здароўя РБ і ставілася пытанне аб закрыцці ўчастковых бальніц да 25 ложкаў з адкрыццём ложкаў мадыка-сацыяльнай дапамогі, выканком раённага Савета не пайшоў на гэты крок і захаваў і стацыянар для хворых, і ложкі медыка-сацыяльнай дапамогі.

Па-другое, паважаны Алесь Ліпскі, не зразумела, з якіх крыніц інфармацыі вы гэта ўзялі, што ў бальніцы неабходна плаціць і за шпрыц, і за ампулу з лекамі або прыносіць усё гэта хворым з дому. Калі ў Вас ёсць праўдзівая інфармацыя, давайце разбярэмся разам, запрасіўшы для ўдзелу работнікаў пракуратуры.

Хай будзе вам вядома, што ў Астравецкім ТМА усе лячэбныя ўстановы, нягледзячы на цяжкасці з фінансаваннем, працуюць толькі аднаразовымі шпрыцамі, аднаразовымі сістэмамі для пералівання крыві і вадкасцяў, няма перабояў у забеспячэнні жыццёва важнымі медыкаментамі.

Напярэдадні выхаду Вашай заметкі работу Астравецкага ТМА слухалі на выязной калегіі ўпраўлення Гродзенскага аблвыканкома, дзе дадзена станоўчая ацэнка.

Работа Гервяцкай участковай бальніцы 25. 09. 1996 г. праверана старшынёй камісіі, галоўным рэабілітолагам вобласці Дайнекам Л. Н., абласным тэрапеўтам Г. А. Пракаповіч, начальнікам аддзела кадраў упраўлення аховы здароўя Жалязноўскай Ж. Н. У працэсе праверкі былі сустрэчы з хворымі, жыхарамі в. Гервяты, старшынёй сельскага Савета т. Сцяпанавай М. А. У выніку праверкі не выяўлена сур'ёзных заўваг, няма скаргаў на аказваемую медыцынскую дапамогу і з боку насельніцтва ўчастка і кіраўніцтва сельскага Савета. Бальніца больш чым дастаткова забяспечана неабходным інструментарыем і медыкаментамі.

Паважаны Алесь Ліпскі, калі прыязджаеце ў раён, я не хачу Вас пакрыўдзіць, але трэба расплюшчыць вочы, бачыць, што перад табой, а не збіраць плёткі, каб дагадзіць тым, каму так хочацца, каб развалілі яшчэ і ахову здароўя."

Рэдакцыя просіць прабачэння за інфармацыю, якая не адпавядае стану рэчаў, у работнікаў аховы здароўя Астравеччыны і чытачоў. Што тычыцца Валерыя Маркелава– ні яго подпісу, ні яго псеўданіма вы больш не ўбачыце на старонках "РГ". Мы не хочам уводзіць у зман свайго чытача.

***Аляксандр МАНЦЭВІЧ, галоўны рэдактар "РГ".***

